**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер, выдаецца на беларускай мове.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**Выдаецца са снежня 1994 года** 6 (514) 11 лютага 2010 года Кошт **свабодны**




Фота Я. Самсонава

*Працяг тэмы на стар. 5*

# Ïàç³òû¢íûÿ çìåíû íà Âàðàïàåâñê³ì çàâîäçå æàëåçàáåòîííûõ âûðàáà¢

■ Кастусь Александровіч

**У гісторыі прамысловых прадпрыемстваў, як і ў жыцці асобных людзей, бываюць светлыя і чорныя палосы. Вось і для калектыва Варапаеўскага завода жалезабетонных вырабаў, што ў Пастаўскім раёне, станоўчыя змены пачаліся некалькі гадоў назад пасля далучэння да аб'яднання "Полацксельбуд".**

Калі ажыла будаўнічая галіна, то палепшылася і "эканамічнае здароўе" прадпрыемства, якое стала працаваць у тры змены, каб выканаць усе заказы на прадукцыю.

Пасля праведзенай мадэрнізацыі завода і рэканструкцыі вытворчых ліній тут павялічылі выпуск пліт перакрыццяў і фундаментных блокаў, бардзюраў, пліткі ў 5 разоў. Заробкі завадчан адразу выраслі, і за свае працоўныя месцы сталі людзі трымацца. За кошт розных крыніц фінансавання на заводзе зноў аднавілі свой машынатрактарны парк, запусцілі ўласную кацельню на мясцовых відах паліва. Як вынік, летась аб'ёмы вытворчасці павялічыліся амаль на трэць, было выпушчана больш 2000 кубаметраў жалезабетону.

Варапаеўскі завод ЖБВ пасля працяглага перапынку сярод прамысловых прадпрыемстваў раёна стаў другім і быў адзначаны на ўрачыстым сходзе ў райцэнтры па падвядзенню вынікаў працы ў 2009 годзе.

## Ó Â³öåáñêó ï'ÿíû ñûí çàá³¢ áàöüêó äà ñìåðö³

■ Сяржук Серабро

42-гадовы віцяблянін пасля сумеснага распівання спіртнога збіў да смерці свайго 68-гадовага бацьку.

Труп пенсіянера выявілі ва ўласнай кватэры са слядамі збіцця. Па заключэнню судова-медыцынскай экспертызы смерць наступіла ад пераломаў рэбраў і пнеўматараксу.

Папярэдне ўсталявана, што ён быў забіты да смерці ў сварцы ўласным сынам. Узбуджаная раней крымінальная справа па частцы 1 артыкула 147 *УК* Рэспублікі Беларусь перакваліфікавана на частку 3 паказанага артыкула. Падазраваны арыштаваны.

## Ïàäàðàæý¢ íà 5% êîøò äçÿðæà¢íàãà òýõàãëÿäó à¢òàìàá³ëÿ¢



■ Алесь Сьнег

Падаражэў на 5% кошт дзяржаўнага тэхагляду аўтамабіляў. Такое павышэнне Міністэрства эканомікі тлумачыць тым, што з 1 студзеня з 18 да 20% павялічыўся падатак на дададую вартасць, а гэта, у сваю чаргу, пацягнула і рост выдаткаў на аказанне тэхнічных паслугаў.

Паводле новаўвядзенняў, тэхагляд аўтамабіля з бензінавым рухавіком цяпер будзе каштаваць 28 200 руб., аўтамабіля з дызельным рухавіком 29 900 руб. Агляд матацыкла абыдзецца ў 12 800 руб.

Тэхагляд аўтамабіляў, якія маюць менш за 10 гадоў, праводзіцца раз на 2 гады. Старэйшыя ж за 10 гадоў мусяць правярацца штогод. А таму, на меркаванне аўтаматараў, падаражанне адаб'ецца на тых, хто не можа дазволіць сабе новага аўта.

Ïàñòà¢ñê³ ðà¸í

# ²ì ïóëüñ óñòîéë³âàãàê ðîñòó

■ Кастусь Александровіч

**У гісторыі прамысловых прадпрыемстваў, як і ў жыцці асобных людзей, бываюць светлыя і чорныя палосы.**

Вось і для калектыва Варапаеўскага завода жалезабетонных вырабаў, што ў Пастаўскім раёне, станоўчыя змены пачаліся некалькі гадоў назад пасля далучэння да аб'яднання "Полацксельбуд". Калі ажыла будаўнічая галіна, то палепшылася і "эканамічнае здароўе" прадпрыемства, якое стала працаваць у тры змены, каб выканаць усе заказы на прадукцыю. Пасля праведзенай мадэрнізацыі завода і рэканструкцыі вытворчых ліній тут павялічылі выпуск пліт перакрыццяў і фундаментных блокаў, бардзюраў, пліткі ў 5 разоў. Заробкі завадчан адразу выраслі, і за свае працоўныя месцы сталі людзі трымацца. За кошт розных крыніц фінансавання на заводзе зноў аднавілі свой машынатрактарны парк, запусцілі ўласную кацельню на мясцовых відах паліва. Як вынік, летась аб'ёмы вытворчасці павялічыліся амаль на трэць, было выпушчана больш 2000 кубаметраў жалезабетону. Варапаеўскі завод ЖБВ пасля працяглага перапынку сярод прамысловых прадпрыемстваў раёна стаў другім і быў адзначаны на ўрачыстым сходзе ў райцэнтры па падвядзенню вынікаў працы ў 2009 годзе.

# Íà àãðàñÿäç³áàõ - íàéëåïøûÿ àäïà÷ûíàê

■ Станіслаў Раманчук

**Услед за іншымі дзяржавамі кантынента і ў Беларусі пачаў актыўна развівацца агараэкатурызм.**

Толькі на Віцебшчыне цяпер дзейнічае каля трохсот такіх ужо даволі прыстойных сядзіб, трэцяя частка ад усёй колькасці па краіне. Лепшых з лепшых днямі ўрачыста ўшанавалі ў Віцебскім аблвыканкаме на цырымоніі падвядзення вынікаў першага абласнога конкурса на лепшую аграатурыстычную гаспадарку. У трох з пяці намінацый былі сярод пераможцаў прадстаўнікі заходніх раёнаў вобласці. У адной з самых прэстыжных "За захаванне беларускіх традыцый" заслужана перамаглі пастаўчане Наталля і Юрый Фурсы, якія трымаюць сядзібу з нацыянальным каларытам "Трабуцішкі" паблізу літоўскай граніцы. У намінацыі "Гасціннасць" лепшай была названа аграсядзіба з Глыбоцкага раёна "Ля возера" Т. Анашкевіч. Яшчэ ў адной намінацыі "Здаровы лад жыцця" ганаровы дыплом пераможцы накіраваўся ў Браслаўскі раён на сядзібу "Петухоўшчына" да К. Кордыш. Узнагароды дыпламантаў конкурсу дасталіся таксама гаспадарам сядзіб "Мазурны бераг" Э. Цярэшку з Мёрскага раёна і "Пошта Абабе" А. Кіцук з суседняга Браслаўскага раёна.

Áðàñëà¢ñê³ ðà¸í

# Áåçãàñïàäàð÷àñöü êàøòóå äîðàãà

■ Чэслаў Якубовіч

**Як нідзе болей, на аб'ектах сельскай гаспадаркі заўсёды можна добра пажывіцца злодзеям, бо там заўсёды нешта ды дрэнна захоўваецца.**

Гэтай сітуацыяй у поўнай меры скарысталіся невядомыя злачынцы, якія скралі з адной ферм сельгасфіліяла "Азёрны край" райаграсервісу Браслаўскага раёна адразу сем цёлак. Як паказала праведзеная праверка, пасля кармлення жывёл вечарам памяшканне зусім не ахоўвалася, сюды можна было любому свабодна зайсці. У выніку дармавое мяса агульным коштам пад 8 млн. рублёў знікла ў невядомым накірунку. Кіраўніцтва гаспадаркі не спяшалася шукаць вінаватых. Праўда, потым дырэкцыя спагнала з праштрафіўшыхся і службовых асоб прычынены матэрыяльны ўрон у суме крыху больш 2 млн. рублёў. З гэтым катэгарычна не пагадзілася пракуратура Браслаўскага раёна. Па яе патрабаванню да матэрыяльнай адказнасці прыцягваюцца непасрэдна кіраўнік сельгаспрадпрыемства і загадчыца гэтай фермы, якія не прынялі неабходных мер па ахове матэрыяльных каштоўнасцей. З уласнай кішэні прыйдзецца ім поўнасцю кампенсаваць страты, што ў структуры калгаснага ладу ўзнікаюць рэгулярна.

## Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ì

www.rp5.ru

| | чацвер 11.02.10 | | | | пятн.12.02.10 | | | суб. 13.02.10 | | нядз.14.02.10 | | пн. 15.02. | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 20:00 | 02:00 | 08:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 | 02:00 | 14:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | - | - - | - - |
| Тэмпература, °C | -11 | -7 | 0 | 0 | -2 | -4 | -2 | -5 | -2 | -5 | -3 | -6 | -4 |
| Ціск, мм | 749 | 750 | 750 | 752 | 751 | 750 | 751 | 751 | 749 | 748 | 747 | 746 | 745 |
| Вільготнасць, % | 97 | 94 | 85 | 89 | 92 | 94 | 81 | 93 | 82 | 91 | 78 | - | - |
| Вецер м/сек | С-В 1 | С-В 2 | Ю-В 3 | Ю-В 4 | Ю-В 4 | Ю-В 4 | Ю-В 4 | В 3 | В 4 | С-В 2 | С-В 2 | С 1 | В 1 |

# Äçåíü çà äí¸ì

**Пасля падпісання ў Маскве пратакола аб пастаўках расійскай нафты ў Беларусь супярэчнасці паміж саюзнікамі ў энергетычнай сферы не скончыліся. Канцэрн "Газпрам" адмоўна ставіцца да спроб беларусаў атрымаць скідкі і купляць газ па леташняй цане, што можа неўзабаве справакаваць новы газавы канфлікт. Кіраўніцтва Нацбанка не выключыла неабходнасць прыцягнення сёлета новых валютных крэдытаў ад МВФ для ўмацавання беларускага рубля, вырашэння іншых задач, каб найперш павялічыць экспарт айчыннай прадукцыі.**

## Âàæíåéøûÿ íàâ³íû ñâåòó

***Гаіці.*** Пасля катастрафічнага землятрусу больш 400 тысяч чалавек, аказаўшыхся без жылля, пачалі арганізавана перасяляць ў палатачныя гарады ў ваколіцах сталіцы краіны.

***Галандыя.*** Па распараджэнню ўлад у краіне знішчылі больш 40 тысяч коз 11 % пагалоўя, пераносчыкаў бактэрый , ад казінага грыпу памерла 6, захварэлі 2300 жыхароў.

***Бельгія.*** На праграму паляпшэння кіравання граніцай Беларусі ЕС выдзяліў нам 7 млн. EUR на праект "Бомбел-3", стварэння аптова-валаконных ліній перадачы дадзеных.

***Грэцыя.*** Кіраўнік Цэнтрабанка краіны Г. Правопулос заявіў, што грэкі не збіраюцца выходзіць з зоны еўра, бо гэта не дапаможа вырашыць сур'ёзныя эканамічныя праблемы.

***Расія.*** Услед за іншымі краінамі ў РФ з сакавіка запрацуе праграма выдачы спецпрэмій па 50 тыс. рублёў уладальнікам аўто старэй 10 год пры пакупцы імі новых аўтамабіляў.

***ЗША.*** На разгляд абедзвюх палат Кангрэса паступіў праект закона "Акт аб уліку беларускіх паставак зброі", па аб'ёму гэтага экспарту Беларусь на 11-м месцы ў свеце.

***Кітай.*** З канца снежня ў паўночна-заходніх раёнах правінцыі Сіньцзянь працягваецца пахаладанне з ветрам і тэмпературай да мінус 45,7 градусаў, гінулі людзі і шмат жывёл.

***Венгрыя.*** Вярхоўны суд краіны забараніў будаўніцтва ваеннага радара НАТО на ўзгорку паблізу горада Печ, бо гэты аб'ект нясе непапраўны ўрон экалогіі гэтых мясцін.

***Літва.*** У выніку міжнароднай спецаперацыі ў партыі замарожанай рыбы ў порце Клайпеды паліцыя затрымала буйнейшую партыю з 0,5 тоны высокаякаснага какаіну.

***Расія.*** Пасля ўвядзення забароны на імпарт мяса птушкі з ЗША ў РФ імгненна падаражэлі ўсе мясапрадукты ў сярэднім на 20 %, летась расіяне купілі 2,5 млн. тон мяса з-за мяжы.

***Польшча.*** Грамадскасць краіны неадназначна адрэагавала на факт уручэння польскаму паслу ў Мінску ноты МЗС Беларусі наконт дзеянняў супрацоўнікаў дыппрадстаўніцтва.

***Казахстан.*** Пры падтрымцы МЗС краіны-старшыні АБСЕ старшынёй Эканамічнага камітэта АБСЕ ўпершыню прызначылі прадстаўніка Беларусі Аляксандра Сычова.

***Расія.*** Каб эфектыўным быў Мытны саюз трох краін, першы віцэ-прэм'ер РФ І. Шувалаў прапанаваў стварыць наднацыянальнае казначэйства і адзіную мытную службу.

***Італія.*** Мэрыя Рыма зноў праводзіць у сталіцы паралельна з кінафестывалем у Венецыі на працягу 10 дзён лютага адроджаны масавы карнавал, які быў тут да XIX стагоддзя.

***ЗША.*** Самым касавым у гісторыі сусветнага кіно стаў фільм "Аватар" рэжысёра і шэдэўра "Цітаніка" Джэймса Кэмерона, які сабраў у пракаце за кароткі час каля 1,9 млрд. USD.

## Ïàäçå³, ïðà ÿê³ÿ ãàâîðûöü Áåëàðóñü

***Мінск.*** У Беларусі плануецца, як заявіў міністр юстыцыі В. Галаванаў, увесці крымінальную адказнасць даўжнікоў, не выконваючых рашэнні агульных судоў.

***Гродна.*** На ўсю прадукцыю вядучай тытунёвай фабрыкі "Нёман" павялічыліся рознічныя цэны ў памеры ад 4,3 да 12,5 %, уключаючы цыгарэты па праграме замяшчэння імпарту.

***Мінск.*** Новы айчынны наутбук "ВМ-2015" павышанай надзейнасці і трываласці ад холаду, пылу, гарачыні распрацавалі вучоныя сталічнага НДІ электронна-вылічальных машын.

***Мінск.*** Старшыня ЦВК Беларусі Л. Ярмошына выказала шкадаванне з нагоды адсутнасці ў палітычных партый інтарэсу да мясцовых выбараў, яны ў камісіі вылучылі 1 % членаў.

***Магілёў.*** Па ўзроўні аплаты працы ў рэгіёнах краіны вобласць апынулася на апошнім месцы, у снежні тут сярэдня заробкі былі 938 тысяч, летась у Беларусі яны ўсюды ўпалі.

***Рэчыца.*** На рэгіянальным семінары ідэалагічных работнікаў 1-ы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Н. Пяткевіч прапанавала Інтэрнет падлягаць рэгуляванню.

***Мінск.*** У штогадовым эканамічным рэйтынгу Беларусь заняла 150-е месца ў кампаніі "абсалютна несвабодных" Сан-Тамэ і Гвінеі з-за паўсюднага дзяржкантролю бюракратыі.

***Брэст.*** Супрацоўнікі ДАІ ў ходзе рэйду выпадкова выявілі выкладчыка язды аўташколы, які быў 3 гады назад пазбаўлены вадзіцельскіх правоў за язду ў нецвярозым стане.

***Мінск.*** Суд Савецкага раёна прыгаварыў да 7 гадоў турмы 43-гадовага кіраўніка турфірмы з Турцыі за арганізацыю секстураў у Беларусь для суайчыннікаў за 50 USD з кліента.

***Стаўбцы.*** Райвыканкам пакрыўдзіўся і падаў у суд на жыхара раёна за яго прапанову чыноўнікам вывучыць басню К. Крапівы "Дыпламаваны баран" і здаць па ёй затым залік.

***Мінск.*** На базе 4-й гарбальніцы і кафедры БДМУ пачаліся клінічныя выпрабаванні новага таннага лякарства ад грыпу A/H1N1 і ВРВІ флустоп, распрацоўкі беларускіх вучоных.

***Магілёў.*** У сувязі са змяншэннем колькасці насельніцтва ў вобласці ліквідавалі яшчэ 9 сельсаветаў і змянілі межы ў больш 20-ці, наперадзе скарачэнне яшчэ 50 сельсаветаў.

***Мінск.*** У мінулым годзе ў Беларусі цэны на медыкаменты і лекі найбольш усяго павялічыліся, адразу на 24,2 %, было зафіксавана 3,7 млн. выпадкаў хвароб на ВРВІ, грып.

***Ліда.*** Спецыялісты Інстытута гісторыі НАН Беларусі назвалі рэальнай датай заснавання горада 1323 год, хоць за савецкім часам яго штучна "памаладзілі" да юбілейнага свята.

***Мінск.*** Амаль 90 тысяч чалавек, ветэранаў вайны і пацярпелых ад яе наступстваў атрымаюць у РБ аднаразовыя дапамогі да 65-годдзя Перамогі ў суме 17,3 млрд. рублёў.

## Ïàíàðàìà ¢íóòðûàáëàñíûõ ïàäçåé

***Віцебск.*** З-за халоднай зімы ад 3 % на ўсходзе да 10 % у заходніх раёнах вобласці ўжо загінулі пасевы азімых культур, для іх чарговым выпрабаваннем стане пачатак вясны.

***Лепель.*** Лінія па выпуску гранулiраванага карыснага камбікорму для птушак пачала працаваць на мясцовым прадпрыемстве, філіяле ЗАТ "Віцебскаграпрадукт".

***Віцебск.*** Толькі ў абласным цэнтры ў чарзе на атрыманне жылля стаіць 30509 чалавек, летась па ўсёй Віцебшчыне ўдалося здаць каля 7 тысяч новых кватэр і жылых дамоў .

***Наваполацк.*** Па выніках 9 месяцаў 2009 года аб'яднанне "Нафтан" спрацавала лепей за ўсіх у Беларусі і атрымала за гэты перыяд 126,7 млрд. рублёў чыстага прыбытку.

***Віцебск.*** У пачатку года ў абласным цэнтры было 19 стратных прадпрыемстваў, складскія запасы дасягнулі 179 млрд. рублёў, альбо 92 % сярэднемесячнага аб'ёму вытворчасці.

***Полацк.*** На базе аграсядзібы "Хутар ля крыніцы" прайшоў у рамках адмысловага турпракета першы чэмпіянат сярод аматараў парной лазні з акунаннем у ледзяную ваду.

***Паставы.*** Упершыню ў гісторыі раёна на новым малочным комплексе СВК "Камайскі" ад кожнай з больш 500 кароў надаілі за год амаль еўрапейскія надоі, пад 6200 літраў малака.

***Віцебск.*** Толькі кіраўнік абласнога УКДБ палкоўнік Генадзь Герасіменка застаўся пры пасадзе, у астатніх абласцях прайшла, як і ў цэнтральным апараце КДБ, ратацыя кадраў.

***Езярышча.*** Ноччу на мясцовай метэастанцыі зарэгістравалі самую нізкую сёлетняй зімой тэмпературу паветра ў Беларусі мінус 33 градусы, такіх доўгіх халадоў даўно не было.

***Верхнядзвінск.*** Самай папулярнай у райцэнтры стала прыватная гасцініца "Адрыніка-Люкс" на 11 утульных нумароў, якую адкрыў гараджанін у адрэстаўраваным доме.

***Шаркаўшчына.*** Пасля выпіўкі ў доме накіраванага ў ЛПП сябра ў вёсцы Лужкі на пажары загінулі яго знаёмыя 23-гадовы калгаснік і 41-гадовы непрацуючы вяскобец з Верацеяў.

***Сянно.*** У Доме культуры аграгарадка Ходцы завяршыўся чарговы раённы фестываль дзіцячай творчасці "Ранішняя зорка-2010", прысвечаны 65-годдзю Вялікай Перамогі.

***Орша.*** Да свайго 70-годдзя калектыў Высокскага прафліцэя ўпершыню за год набыў адразу 6 адзінак новай тэхнікі, яго навучэнцы за час вучобы набываюць па 3 прафесіі.

***Віцебск.*** Суд асудзіў на 5 гадоў кіраўніцу гуртка аблаб'яднання пазашкольнай работы з канфіскацыяй маёмасці за падман 8 жадаючых адправіць дзяцей на адпачынак у Еўропу.

***Наваполацк.*** Толькі за два дні выхадных пункты праката лыж і канькоў зарабілі больш 10 млн. рублёў, тут упершыню залілі 7 каткоў, 2 хакейныя каробкі, ёсць 5 лыжных трас.

Служба інфармацыі "ВГ".

## Лічба нумара

**3366** столькі летась у Беларусі, па дадзеных Генеральнай пракуратуры, было зарэгістравана толькі карупцыйных злачынстваў. Яшчэ ў мінулым стагоддзі гэтай ганебнай з'явe была аб'яўлена ў нашай краіне бязлітасная барацьба. Аднак быццам тое пустазелле на запушчаным агародзе, не думае карупцыя ў нас здаваць свае пазіцыі.

Дастаткова ўзгадаць пра матэрыяльны ўрон ад такіх правапарушэнняў. Ён склаў за мінулы год 53 млрд. рублёў, а па абвінавачванні ў гэтых злачынствах былі арыштаваны ў Беларусі 1746 грамадзян, зразумела далёка не бедных і жадаўшых мець яшчэ больш грошы. Менавіта прага нажывы альбо хутчэйшае вырашэнне нейкіх праблем у абыход законаў з'яўляецца падставай для карупцыі, як і грэбаванне прынятымі нормамі маралі. У сваю чаргу маштабы карупцыйнай дзейнасці ўражваюць.

Падлічана, што кожны дзень беларуская праваахоўнікі арыштоўвалі ў сярэднім па 5 злачынцаў-карупцыянераў. Генпракуратура спадзяецца, што ўдасца ў асноўным кампенсаваць нанесеную шкоду шляхам накладання арышту на маёмасць вінаватых асоб.

Найбольш "праштрафіўшыхся" летась карупцыянераў было выяўлена ў галінах прамысловасці, сельскай гаспадаркі, будаўніцтва, аховы здароўя і гандлю. Аднак нават самі пракуроры лічаць, што нельга адносіць у гэту статыстыку загадчыкаў магазінаў за крадзёж невялікай сумы грошай і ўрачоў за выпіску за ўзнагароджанне несапраўдных лісткоў непрацаздольнасці.

Увогуле, апошнім часам узровень злачыннасці ў нашай краіне працягвае зніжацца, жыць становіцца крыху спакайней. Так, у 2009 годзе ў Беларусі было ўсяго ўчынена крыху больш 151 тысяч злачынстваў, зніжэнне склала 4,6 % і самае галоўнае менш стала рэгістравацца цяжкіх і асабліва цяжкіх злачынстваў. У сваю чаргу паранейшаму пераважаюць сярод злачынстваў крадзяжы маёмасці як асобных грамадзян, так і дзяржавы. Злодзеі прывыклі браць усё тое, што пападаецца ім на вочы альбо дрэнна захоўваецца.

Шчыра кажучы, у мінулым было намнога лепей, крадзяжоў фіксавалася ў дзесяткі разоў меней, чым цяпер. Але час змяніўся, іншымі сталі норавы і зусім сур'ёзна прапаноўваецца пры прыёме на работу некаторых адказных асоб правяраць іх на шчырасць і на схільнасць да карупцыі на спецапараце паліграф ( так званы дэтэктар хлусні). Раней яго толькі ў кіно можна было бачыць, а зараз стане, магчыма, будзённай справай. Цікавыя рэчы, аднак зараз у нашай краіне назіраецца і іншы дзіўны факт.

Пасля вайны за савецкім часам намнога спакайней жылося на вёсцы, дзе людзей было багата, усе ведалі адзін аднаго, дапамагалі будавацца, працавалі талакой і не кралі ў суседа. Цяпер жа па асноўнай прычыне ўзнікнення многіх правапарушэнняў масавага п'янства і адсутнасці працы ў гарадах стала крыху цішэй, чым у глыбінцы. Напрыклад, у вёсках і цяперашніх аграгарадках Беларусі летась было ўчынена забойстваў у 3 разы болей, чым у гарадах.

" Вызначыўся" у прыватнасці Барысаўскі раён, дзе за год вяскоўцы, якія канчаткова апусціліся, 19 разоў пазбаўлялі жыцця сваіх землякоў. На "мокрую справу" ідуць пераважна п'янтосы- лайдакі працаздольнага ўзросту, якіх падтрымліваюць матэрыяльна састарэлыя бацькі. Ад такіх байструкоў паўсюдна пакутуюць адзінокія састарэлыя, рэгулярна прыходзяць паведамленні аб тых ці іншых здарэннях у сялянскіх хатах. Відавочна, што ў гэтым накірунку недапрацоўваюць прафілактычна з насельніцтвам праваахоўныя органы.

Разам з тым перапоўнены папраўча-працоўныя калоніі, не так лёгка адразу трапіць на "перавыхаванне" у лячэбна-працоўны прафілакторый чалавеку, трапіўшаму ў залежнасць ад алкаголю. Сур'ёзнай пагрозай для аховы парадку з'яўляецца таксама нелегальны транзіт праз Беларусь мігрантаў у Еўропу, які ажыццяўляюць злачынныя групоўкі. Штогод прыходзіцца затрымліваць і дэпартаваць з краіны дзесяткі такіх груп.

Безумоўна ўсім нам хацелася б, каб тэндэнцыі змяншэння злачыннасці ў Беларусі набіралі і надалей моц і каб раскрывалася як мага болей злачынстваў. Дзеля гэтага ў краіне многае робіцца, але найперш усяго кожнаму грамадзяніну трэба пачаць паважаць Закон. Тады і крымінагенная абстаноўка будзе радаваць, спакойна жыць - многае сапраўды значыць.

# Марыя зачаравала гледачоў чысцінёй сваёй адкрытай душы

***Сустрэча з цікавым чалавекам.***

**Аўтарытэт нашай зямлячкі Марыі Новікавай мае вякую вагу ў коле аматараў бардаўскай песні. На жаль, у сябе на радзіме аб гэтай маладой, прывабнай, таленавітай спявачцы, чалавеку вялікай душы, патрыёту беларускай мовы і Айчыны ведома няшмат.**

Дзякуючы кампаніі "Будзьма", 4 лютага г.г. у Глыбоцкай раённай бібліятэцы адбылася творчая сустрэча Марыі Новікавай са старшакласнікамі глыбоцкіх школ і прыхільнікамі бардаўскай песні. Марыя зачаравала гледачоў чысцінёй сваёй адкрытай душы, запалам энергіі, апантанасцю, любоўю да Радзімы, да беларускай мовы. Тая чарга за аўтографамі і нежаданне развітвацца пасля сустрэчы, яскрава сведчыць аб станаўленні трывалай сувязі спявачкі і юных гледачоў.



**Прысутных на сустрэчы з бардам Марыяй Новікавай сабралася паўнюткая зала. Крайняя справа – маці Марыя Баравік.** *Фота Я. Самсонава.*



**Спявае Марыя Новікава.** *Фота Я. Самсонава.*

Пра захапленні і творчы шлях Марыі Новікавай тэма вартая асобнага артыкула, які ў будучым з'явіцца на старонках газеты "В.Г.", а пакуль нагадаю, што Марыя Новікава, якая цяпер жыве ў Мінску, працуе настаўніцай у Самахвалавічах, з'яўляецца арганісткай вядомага Чырвонага касцёла – дачка знакамітай на Глыбоччыне паэткі Марыі Баравік. Аўтар гэтых радкоў, апроч вышэйнапісанага, зняў невялікі відэасюжэт, які неўзабаве можна будзе ўбачыць на сайце westki.info, а таксама ў Глыбоцкай раённай бібліятэцы.

Будзьма разам!

# Глыбоцкаму раёну – 70




**У маляўнічым гарадскім пасёлку Падсвілле 5 лютага 2010 года плошча ля будынка Дома культуры была застаўлена шыкоўнымі аўтобусамі і аўтамабілямі. Тут адзначалі 70-годдзе ўтварэння Глыбоцкага раёна.**

**Генадзь Кустусін**

Да пачатку свята граў узорны духавы аркестр Глыбоцкай ДПІМ пад кіраўніцтвам М.Лашкова. Тут жа ў фае дэманстраваліся экспанаты, працаваў выязны гандаль.

Вядучыя святочнага канцэрта Людміла Карніловіч і Аляксандр Дыро ў 11 гадзін аб'явілі аб адкрыцці ўрачыстасці. Першым браў слова старшыня Глыбоцкага райвыканкама Алег Віктаравіч Морхат. У сваёй прамове ён адзначыў, што згодна Указа прэзідыума Вярхоўнага Совета БССР 15 студзеня 1940 года былі ўтвораны Глыбоцкі і Плiскі раёны. Тэрыторыя Глыбоцкага раёна, па тым часе, складала 592 кв. км... Насельніцтва – 35099 чалавек, з якіх 9650 былі жыхары г. Глыбокае. За 70 год на долю жыхароў раёна выпала шмат выпрабаванняў, якія з гонарам былі пераадолены. Алег Віктаравіч выказаў надзею, што і ў далейшым Глыбоцкі раён будзе займаць годнае месца ў шэрагу раёнаў вобласці і Рэспубліцы Беларусь.

З віншавальнай прамовай выступіў і ўручыў падарункі старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзімір Андрэйчанка.

– 70-годдзе ўтварэння Глыбоцкага раёна - свята не толькі ў Рэспубліцы Беларусь, гэта свята ў Саюзнай Дзяржаве – так адзначыў важнасць падзеі наступны аратар, намеснік дзяржсакратара расійска–беларускага Саюза. Ён таксама ўручыў за асабісты ўклад у агульную справу падарунак старшыні Глыбоцкага райвыканкама А. Морхату кнігу і памятны медаль "10 год стварэння Саюзнай дзяржавы". Такімі медалямі былі адзначаныя і іншыя паважаныя госці і адказныя асобы нашага раёна.

Ад імя Глыбоцкага райвыканкама і Савета Народных Дэпутатаў за асабісты ўклад у развіццё раёна былі ўручаны каштоўныя падарункі і Ганаровыя граматы шэрагу былых кіраўнікоў прадпрыемстваў і арганізацый раёна і іншым паважаным грамадзянам раёна.

Дэманстрацыяй дакументальнага фільма рэжысёра Ю.Гарулёва "Глыбокае" (кінастудыя "Беларусьфільм") пачалася другая частка свята, якая скончылася выдатным канцэртам лепшых мастацкіх калектываў і самадзейных артыстаў раёна. Кожны з 22 нумароў праграмы святочнага канцэрта ўзнагароджваўся шчырымі і працяглымі апладысментамі ўдзячных гледачоў.



**Мастак Віктар Дудкевіч (Глыбоцкі Дом рамёстваў) сярод сімпатычных барабаншчыц.**



**Экспанаты Дома рамёстваў.** *Фота Я. Самсонава.*




Першынство Глыбоцкага раёна па лыжных гонках «Беларуская лыжня» сярод мясцовых органаў дзяржаўнага кіравання і другіх работнікаў, прысвечаных 65 – годдзю вызвалення Беларусі адбылося 6 лютага ва ўрочышчы Борок бліз Глыбокага. У ім пынялі удзел 33 каманды. Першынство праходзіла як у асабістым, так і ў камандным заліку. У камандным заліку першае месца заняла дружная каманда «Аграсэрвіс». Другое – «Мясакамбінат», трэцяе – «Ломашы». «ЖКГ», «Райвыканкам», «За Радзіму», «ВК-13», «Падатковая інспекцыя», «Ломашы Агра», «РАУС» увайшлі ў дзясятку лепшых каманд і занялі адпаведна з 4 па 10 месцы. Пераможцы і прызёры ў асабістым і камандным заліку былі ўзнагароджаны каштоўнымі падарункамі і Ганаровымі граматамі.

# Круглы стол у Дзісне

**06 лютага 2010 года адбыўся круглы стол "Гісторыка-культурныя помнікі і праблемы ўстойлівага развіцця Дзісны", наладжаны Беларускім добраахвотным таварыствам аховы помнікаў гісторыі і культуры і Дзісенскім гарсаветам у межах агульнанацыянальнай кампаніі "Будзьма беларусамі".**

На круглым стале з удзелам сяброў Рэспубліканскага савета Таварыства, дэпутатаў Дзісенскага гарсавета і грамадскасці былі разгледжаны праблемы развіцця самага маленькага беларускага горада, яго турыстычны патэнцыял, перспектывы супрацы Дзісенскай камуны з дзяржаўнымі органамі і недзяржаўнымі ініцыятывамі па фарміраванні новых альтэрнатыўных падыходаў у развіцці гарадской інфраструктуры.

У час размовы, якая адбылася пры вельмі вялікай актыўнасці дзісенскіх жыхароў, дадаткова абмеркаваны праблемы краязнаўчага даследавання Дзісны, магчымасць выдання дакументальных матэрыялаў, прысвечаных гарадской гісторыі, перспектывы правядзення гарадскіх фэстаў, з мэтай прыцягнення турыстаў.

Удзельнікі круглага стала атрымалі памятныя падарункі ад кампаніі "Будзьма беларусамі" і Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

*http://pomniki.budzma.org.*




# 6 лютага ў горадзе Браслаў праходзіла гонка «Браслаў Jaf Tea ралі»

6 лютага горад Браслаў сустрэў удзельнікаў першага этапу Чэмпіянату Беларусі па ралі. У спаборніцтвах прымалі ўдзел, як беларускія гоншчыкі, так і госці з Расіі, Украіны, Літвы. Пераможцам «Браслаў Jaf Tea ралі» ў абсалютным заліку стаў адзскі экіпаж Юры Кучмар/Сяргей Каваль (Mitsubishi Lancer Evo IX), паказаўшы лепшы час 53 хвіліны 9 секунд. Крыху меней 6 секунд прайграў лідэру мінскі тандэм Юры Грышчакоў/Дзяніс Равяка (Subaru Impreza WRX STI). Тройку лідэраў замкнулі кіеўляне Ўладзімір Пятрэнка/Зміцер Яровенка (Mitsubishi Lancer).

Як паведамляе autosport.by, у канцы дня на цэнтральным пляцы горада прайшла ўрачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў ралі. Там жа была ўручана ўзнагарода беларускаму экіпажу Анатолю Шымакоўскаму і Ігару Макарчуку за трэцяе месца ў заліку Р3 адкрытага Чэмпіянату Расіі 2009 года.

Наперадзе аматараў аўтаспорту чакае міжнародная гонка, якая пройдзе адначасова ў статусе другога этапу Чэмпіянату Беларусі і трэцяга этапу Чэмпіянату Расіі па ралі. Ралі «Славянскі Кубак» пройдзе ў Браслаўскім раёне 20-23 траўня! Падрабязнасці мінулых спаборніцтваў, а таксама навіны хуткай гонкі апублікаваны на сайце Аўтаспорт у РБ.

# Аб правілах лоўлі рыбы падчас замору

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраёнай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.*

З прыходам моцных маразоў і снегападаў на тэрыторыю рэспублікі на шэрагу мелкіх вадаёмаў назіраюцца заморныя з'явы. На тэрыторыі Глыбоцкага раёна больш 100 азёраў, асобныя з іх таксама мелкаводныя і схільныя да замораў. Карыстаючыся неспрыяльнымі пагоднымі ўмовамі, шматлікія грамадзяне падчас замору ловяць рыбу разнастайнымі сродкамі і метадамі, не выконваючы ніякіх правіл, норм вылаву і г.д.

У 2010 годзе ў Глыбоцкую міжраённую інспекцыю аховы жывёльнага і раслiннага свету неаднаразова паступаюць пытанні ад грамадзян аб правілах лоўлі рыбы падчас замору.

Паводле пункта 133-1 Правіл вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства ў выпадку ўзнікнення ў рыбалоўных угоддзях заморных з'яў, пацверджаных дадзенымі гідрахімічных даследаванняў, праведзеных атэставанымі лабараторыямі, па рашэнні Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя вылаў рыбы можа быць дазволены:

- арандатарам рыбалоўных угоддзяў у арандаваных рыбалоўных угоддзях у тэрміны забароны на вылаў рыбы (нерасту).
- мясцовым выканаўчым і распарадчым органам або ўпаўнаважаным імі юрыдычным асобам у рыбалоўных угоддзях, якія складаюць фонд запасу рыбалоўных угоддзяў.
- грамадзянам без прытрымлівання прамысловай меры або норм вылаву рыбы (прыклад – шчупак 35 см. )

**Такім чынам, лоўля рыбы дазваляецца толькі дазволенымі прыладамі лоўлі, ва ўсталяванай колькасці вылаву рыбы не больш 5 кг. на аднаго чалавека ў суткі і без перавышэння прамысловай меры. Ва ўсіх астатніх выпадках дзеянні грамадзян будуць лічыцца пазапраўнымі.**

Хацелася б адзначыць, што ўсе грамадзяне, якія звярталіся, задавалі пытанне, колькі можна вылавіць рыбы і якімі спосабамі і сродкамі, але ніхто не прапанаваў аказаць дапамогу ў выратаванні азёр ад замораў. Для прадухілення заморных з'яў, неабходна здзяйсняць ускрыццё лёду з паверхні возера (свідраванне лунак, уборка травяністай раслiннасці, усталёўка помп для падачы кіслароду і шмат чаго іншага).

Неаднаразова Глыбоцкая міжрайінспекцыя ў раённых сродках масавай інфармацыі размяшчала спіс вадаёмаў раёна на якіх, паводле рашэння раённага выканаўчага камітэта, дазволены інтэнсіўныя спосабы лоўлі рыбы, аднак штотыдзень затрымоўваюцца грамадзяне, якія парушаюць заканадаўства шляхам усталёўкі дазволеная колькасці жэрліц на вадаёмах, дзе гэта забаронена. Нагадваем, што паводле рашэння Глыбоцкага РВК ад 05.03.2009 года №241 лоўля рыбы інтэнсіўным спосабам (г.зн. да 20 штук) з выкарыстаннем жэрліц пры наяўнасці квітка рыбалова дазволена на возеры Крывое-2 каля г. Глыбокае, Вялец, Івесь, Падлазнае, Акунёва.

Глыбоцкая міжраённая інспекцыя аховы жывёльнага і раслiннага свету выйшла з прапановай у Глыбоцкі раённы выканаўчы камітэт аб унясенні зменаў у дадзенае рашэнне ў 2010 годзе і павелічэнні колькасці вадаёмаў, прызначаных для арганізацыі аматарскага рыбалоўства рознымі інтэнсіўнымі спосабамі.

Паведамляем, што возера Чачалі Глыбоцкага раёна перададзена ў арэнду ПП «Аграбізнескансалт» г. Мінск для арганізацыі прамысловага і платнага аматарскага рыбалоўства. Паводле палажэння аб арганізацыі платнага аматарскага рыбалоўства, на возеры Чачалі Глыбоцкага раёна лоўлю рыбы можна праводзіць толькі пры наяўнасці пуцёўкі. Для мясцовых жыхароў, інвалідаў, пенсіянераў і дзяцей да 16 гадоў пуцёўкі выдаюцца бясплатна. Паводле Правілаў рыбалоўства арандатару рыбалоўных угоддзяў дазваляецца збіранне платы за рыбалоўства без папярэдняга правядзення зарыблення вадаёма.

Па ўсіх пытаннях вядзення рыбалоўства і парушэннях прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце звярнуцца па тэлефонах: 8-02156- 28670 «гарачая лінія», моб.,897-23-02, 890-55-28, 511-39-94.

## Віншаванкі

**Галіну Віктараўну Палідавец**

**Віншуем з днём нараджэння!**

Сколько прожито лет
Мы не будем считать.
Просто хочется нам
От души пожелать:
Не болеть, не стареть
Не грустить, не скучать
И ещё много лет
Дни рожденья встречать.



*Ад дзяцей, маці, мужа, унучкі Насценькі*

# Літоўская арганізацыя шукае партнёра ў Беларусі

Для рэалізацыі сумеснага праекту ў Праграме трансмежнага супрацоўніцтва Латвія – Літва – Беларусь у рамках Еўрапейскага інструмента добрасуседства і партнёрства 2007–2013, супольнасць пры каталіцкай царкве ў Літве «Full House» шукае партнёра з Беларусі (Гродзенская, Віцебская, Мінская вобласці, а таксама горад Мінск).

«Full House» з'яўляецца рэабілітацыйным цэнтрам для людзей, залежных ад алкаголю і наркотыкаў. Шукае зацікаўленыя беларускія грамадскія, дзяржаўныя і рэлігійныя арганізацыі.

Сумесны праект можа быць накіраваны на:

- стварэнне інфраструктур сацыяльнага забеспячэння;
- барацьбу са СНІДам і алкагалізмам у вёсках, дзе вялікае беспрацоўе;
- аказанне рэабілітацыйных паслуг наркаманам і алкаголікам, абмен досведам;
- стварэнне сеткі арганізацый.

Для кантактаў:
Ruta Jakuboniene, кіраўнік праектамі
mob.: +370698 87006
tel.: 8 310 47810
info@pnb.lt, pnb@takas.lt
http://www.pnb.lt


Photo ByMedia.net

## Цудатворны абраз з Украіны ў Браславе

Адну з найшанаваных святыняў Украіны — абраз Пяшчанскай Божай Маці — прывезлі на суткі ў Браслаў з горада Разынкі Харкаўскай вобласці. Мноства вернікаў, як праваслаўных, так і каталікоў, прыйшлі пакланіцца святыні ў Свята-Панцеляймонаў манастыр і Свята-Ўспенскую царкву. Абраз, які быў напісаны невядомым аўтарам больш 250 гадоў таму, славіцца шматлікімі цудамі.

*westki.info*

# Наваполацкія маці ў 2010 годзе за нараджэнне дзяцей будуць атрымоўваць прэмію

***Такое рашэнне прынята гарадскімі ўладамі для падвышэння нараджальнасці.***

**Аб гэтым паведаміла карэспандэнту БелТА намеснік старшыні Наваполацкага гарвыканкама Лідзія Афанасьева.**

Усе навапалачанкі, якія нарадзілі ў 2010 годзе малых, апроч належных па заканадаўству выплат дадаткова з бюджэту горада атрымаюць Br100 тыс.

Бацькі двайнят па традыцыі, якая ўжо склалася дзесяцігоддзямі, атрымаюць таксама ў падарунак камплекты для нованароджаных. А малады маці і тат трайнятак акрамя ўсяго іншага чакаюць асабістыя віншаванні ад кіраўніцтва Наваполацка.

Па выніках студзеня-лістапада 2009 года ў Наваполацку нарадзілiся 811 дзяцей, што складае 92% да аналагічнага ўзроўню 2008 года. Менш зафіксавана за гэты перыяд у горадзе нафтавікоў і шлюбаў: 875, або 90,3% да студзеня-лістападу папярэдняга года.



Каб выправіць дэмаграфічную сітуацыю ў лепшы бок, мясцовыя ўлады рэалізуюць цэлы комплекс мер.

«Выплата прэмій маладым бацькам у 2010 годзе – гэта толькі адзін з крокаў у дадзеным кірунку», - адзначыла суразмоўніца. Так, для забеспячэння рэпрадуктыўнага здароўя маладых людзей наладжаная шырокая інфармацыйна-асветніцкая праца. Пастаянны характар носяць мерапрыемствы, якія прапагандуюць здаровы лад жыцця і каштоўнасці сям'і.

У Віцебскай вобласці ў студзені-лістападзе 2009 года нарадзіліся 11 560 дзяцей, або 102,9% да аналагічнага ўзроўню мінулага года.

У абласным цэнтры за 11 месяцаў з'явіліся на свет 3558 дзетак (102,6%). Найбольшая нараджальнасць за гэты час адзначаецца ў Лёзненскім, Верхнядзвінскім і Шумілінскім раёнах, удакладнілі ў камітэце па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Віцебскага аблвыканкама.

***Вольга Багачова, БелТА***

# Думка пасля Канферэнцыі ТБМ

■ **М. Баравік,** *сябра Рады ТБМ, М. Падсвілле.*

26 студзеня споўнілася 20 гадоў «Закону аб мовах у Беларусі». На Канферэнцыі ТБМ, 24 студзеня слухала выразны даклад аб стане беларускай мовы кандыдата гістарычных навук, старшыні ТБМ імя Францішка Скарыны – А. А. Трусава. «Далейшае існаванне беларускай мовы залежыць ад нашай моладзі, — сказаў выступоўца ў заключэнне.

Безумоўна! У нас ёсць разумная моладзь. Але гэта частка. У шырэйшым маштабе яе павінна рыхтаваць школа, што і падкрэсліў Трусаў. І аб тым, што сёння — святая неабходнасць згуртавання на гэтай патрыятычнай ніве настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, гісторыі і геаграфіі, не гледзячы на сілу выцяснення роднай беларускай мовы. Бо яе дабівае Закон аб двухмоўі – даў шырокую дарогу толькі рускамоўнасці.

Мы прымітыўна дэкламуем пра выхаванне патрыятызму. Ім лічым толькі абаронча дзеянні за Радзіму на вайне. А ўсё тое, што робіць чалавека ўзнёслым духам, не прызнаем.Тут трава не расці. Як выклікаць душы на душэўную размову тлумачэннем, што любоў – гэта вернасць Богу, Бацькам, Роднай Зямлі? Найперш! Не будзе гэтай любові, не ўзнікне ніякага патрыятызму. На вайсковую службу і на абаронча справы трэба будзе заганяць Законам-Дубінкай. Толькі і ўсяго – страх- патрыятызм. І ён ужо па-сапраўднаму не абароніць Айчыну. Як цяпер не абараняе мову. Бо, нават, той, хто працуе на моўнай ніве для дзяцей – яму ж яна неабходна – не хоча падтрымаць.

Роднае слова – катэгорыя паняцця і адчування, якое сягае з глыбіні духу. І, каб стварыць заклік любоўю, парэбна роднае слова. І, каб пакаяцца за грахі – таксама. Бо ў час малітвы духоўная аўра наймацнейшая вакол роднага слова. Пра гэты сэнс сказаў у дакладзе «Ужыванне роднай мовы ў касцёле кандыдат гістарычных навук, ксёндз Ул. Завальнюк: « Малітву кожны павінен гаварыць на сваей, роднай, мове».

Выступоўца ад Міністэрства культуры – Аўдзеенка Н. П. – паслядоўна, выразна і на беларускай мове, пералічыла, куды, у якія сферы культуры (мініпорцыямі») **пранікла** мова карэннай нацыі. Гэта ўсяго толькі «прыправа» беларускай мовай да таго шырокага выкарыстальнага рускамоўнага пласта, у якім яна і растварaецца, губляецца. Часам і не пахне. Асабліва ў галіне асветы. Напрыклад, у школе нашага мястэчка, на Глыбоччыне, і «прыправы» гэтай не знойдзеш.

Мая былая Перадольская васьмігодка загінула. Сёлета яе беларусы-вучні перайшлі ў пасялковую рускамоўную. Адно: прастамоўе ратуе мову. Паза ўрокамі, па-за школай. Ёсць! Выпірае ў мешанцы беларускае адценне яе. Прыгожа яна гучыць толькі з вуснаў ксяндза Андрэя, вернікаў у малітвах, і на гэтым усё.

У час перапісу, моладзь, усе, хто – беларус, называлі роднай беларускую мову, а размоўна-выкарыстальнай пазначылі рускую. Я дабавіла б: па-беларуску - рускаслоўем, або, найчасцей, скалечанай рускай.

ТБМ вельмі трывожыцца за існаванне роднай мовы ў Беларусі. Рада стучыцца вышэй: «Гэй! Там наверсе!» А ўнізе – то нелюбоў, то страх, то лянота.

Застаецца – быць, гучаць і цясней, даверлівей яднацца.

Пра гэта і сказаў А. В. Чэчат, распавядаючы напрыканцы Канферэнцыі пра становішча мовы ў Фрунзенскім раёне сталіцы.

# Фэст у Ветрынскай парафіі

■ **Кс. Віктар Місевіч**

У нядзелю 31 студзеня ў Ветрынскай парафіі адбыўся фэст. Парафія носіць тытул благаслаўлёнага Юрыя Матулевіча. Сам успамін прыпадае на 27 студзеня, аднак дзеля душпастырскіх мэтаў, вырашана было перанесці святкаванне на нядзелю. Сабралася багата вернікаў. Былі госці з іншых парафій Полацкага дэканата. Урачыстасць наведалі таксама прадстаўнікі каталіцкай моладзі з Глыбокага. На св. Імшу яны падрыхтавалі Літургію Слова. Само набажэнства адзначалася багаццем спеваў і інструментальным суправаджэннем. Падчас малітвы гучаў не толькі арган, але і скрыпка.

Гамілію прамовіў кс. Віктар Місевіч. Ён засяродзіўся на тэме Касцёла ў жыцці бл. Юрыя Матулевіча і ў сучаснасці. Галоўным цэлебрансам быў кс. дзекан з Мёраў Кшыштаф Мянкіна. Увесь клопат па арганізацыі парафіяльнага свята лёг на плечы пробашча кс. Валянціна Нарадоўскага і вернікаў.

Парафія ў Ветрыне маладая і не шматлюдная. Аднак, адчуваецца ў ёй Божы Дух і братэрская супольнасць. Магчыма і таму, што нябесны заступнік гэтай парафіі – біскуп Юрый Матулевіч, які моцна любіў Беларусь і беларусаў.





# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

15 – 21 лютага 2010 г.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 15 лютага





**06.00, 07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Новости.
**06.05, 07.10** «Доброе утро, Беларусь!».
**07.05, 08.10** Зона Х.
**07.30, 08.15, 11.50** Деловая жизнь.
**08.20** В мире моторов.
**08.45** Слово митрополита Филарета на начало Великого поста.
**09.05** Nota Bene.
**09.35** «ЗВЕЗДНЫЕ ТАНЦЫ». Мужской сезон.
**11.05 «Не родись красивой»**
**12.05** «Олимпийские игры. Ванкувер-2010». Дневник Олимпиады.
**12.30** «Олимпийские игры. Ванкувер-2010». Фристайл. Мужчины. Финал.
**13.30** «Олимпийские игры. Ванкувер-2010». Фигурное катание. Пары.
**15.15, 19.15** Новости региона.
**15.25** Культурные люди.
**15.55** Мелодрама **«Сестры по крови»**
**17.05 «Не родись красивой»**
**18.05** Видеофильм АТН «Лилия Пташук» цикла «Легко сказать».
**18.25** «Олимпийские игры. Ванкувер-2010». Дневник Олимпиады.
**18.50, 01.15** «Зона Х». Криминальн.хроника.
**19.25** «КЕНО».
**19.30** «Арена».
**19.55** Ток-шоу «Ответный ход».
**21.00** Панорама.
**21.55** Специальный репортаж АТН «Приметный бизнес».
**22.10** Олимпийский журнал.
**22.25** «Олимпийские игры. Ванкувер-2010». Лыжные гонки. Мужчины. Сноуборд. Мужчины. Прямая трансляция.
**01.20** День спорта.





**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Дыхание планеты».
**10.45** ОНТ представляет: «Великолепная пятерка».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10** ОНТ представляет: «Великолепная пятерка».
**12.00** «Малахов+».



**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Понять. Простить».
**13.40** «Модный приговор».
**14.45** «Контрольная закупка».
**15.15 «Виола Тараканова. В мире преступных страстей».**
**16.00** Наши новости.
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Монтекристо»**.
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Моя прекрасная няня»**.
**19.05** Жди меня.
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Ток-шоу «Выбор».
**22.00** Премьера. **«Остаться в живых»**.
**23.00** Наши новости.
**23.15** Новости спорта.
**23.20** «Преступления века».
**23.50 «Женаты... с детьми»**.
**00.35** Наши новости.
**00.50-01.00** Новости спорта.





**07.00** ЛАДное утро.
**08.00 «Универ»** (Россия).
**08.30** Час суда. Дела семейные.
**09.30** В этот день.
**09.35** Сериал **«Любовь как любовь»**
**10.30** Романтич.комедия **«Интуиция»** (США).
**12.05** «Пра мастацтва».
**12.30** Школа ремонта.
**13.30«Семейка пиратов»**
**14.20** Внеклассный час.
**14.35** Бухта капитанов.
**15.15** Телебарометр.
**15.35 «Комиссар Мегрэ»**
**16.25** Час суда. Дела семейные.
**17.25** Простые упражнения с Ю.Афанасьевым
**18.00** Сериал **«Любовь как любовь»**
**19.00 «Универ»** (Россия).
**19.40** «Калыханка».
**19.55** Олимпийские игры. Ванкувер – 2010. Лыжные гонки. Женщины. Прямая трансляция.
**21.40** .**«Возвращение резидента»** .
**22.55** Трагикомедия «Граффити»





**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро. Студия хорошего настроения».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.35** «Большой завтрак».
**10.05** «Пять историй».
**10.30** «24 часа».
**10.40** «Ангел-хранитель».
**11.45** «Званый ужин».
**12.40 «Бывшая»**. Сериал.
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**15.00** «Большой город».
**15.30** «Горячий лед».
**16.00** «Культурная жизнь»
**16.30** «24 часа».
**16.50** « Я - путешественник».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Бывшая»**. Сериал.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.20** «Добрый вечер, малыш».
**20.40** «Кинопонедельник»: .**«ГРЕХИ НАШИ»**. .
**22.30** «24 часа».
**22.55** «Столичные подробности».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Вечные мелодии любви».

БЕЛСАТ tv BELSAT

**17:00** Аб'ектыў
**17:10** Еўропа сёння
**17:40 «Арол: крымінальная сага»**
**18:35 «Бульбаны»**,
**18:40** Госць «Белсату»
**18:55** Прэс-экспрэс
**19:10** Гісторыя пад знакам Пагоні
**19:25** Англійская мова з Ліпі і Мэсі
**19:30 «Аблавушак»**, мультсерыял
**19:40** ПраСвет
**20:00** Невядомая Беларусь: «Двое на Лысай гары»,
**20:35** Прыватная калекцыя
**21:00** Аб'ектыў
**21:20** Фільматэка майстроў: **«Фанфан-Тульпан»**
**22:55** Аб'ектыў

